## Дописы.

*З Ігуменшчыны.* Нацыянальная і культурная праца ў Ігуменскім павеце і грамадзянская сьвядомасьць аб беларускім руху расьце з кожным днем, не зважаючы на перашкоды. У некаторых валасьцёх навет і войты, назначаные польскай уладай, надта прыхільна ад носяцца а нацыянальнай і школьнай працы ў беларускім кірунку, як напрыклад, у валасьцёх Пярэжырскай, Дукорскай і Клінокскай.

У Дукоры заложана Беларуская Валасная Рада, ў склад якой увайшлі настаўнікі дукорскай вышэйшай пачатковай школы, Кіркевіч і др., як сьвядомые беларусы і культурные працаўнікі, ўвайшоў туды-ж і валасны войт, Цярэшка, як прыхільнік. Там-жа, ў Дукоры, з ініцыятывы настаўнікаў заложаны Беларускі Вучнёўскі Гурток. Хаця школа ня лічыцца беларускай, але ўсе вучні добра гавораць пабеларуску, і, як відаць, шануюць сваю родную мову. Яны пішуць пабеларуску вершы, апавяданьні, навет і сцэнічные творы, ставяць спэктаклі, зыск з якіх ідзе на купоўлю кніжак і газэт для школьнай бібліатэкі. Хочуць адчыніць бясплатную чытальню, але ня маюць кніг, і Школьная Беларуская Рада ў Менску ня можа стаць ім, як яны казалі, ў дапамозе. Калі гэта сапраўды так, то вельмі шкода, бо перш-на-перш трэба даць кніжку працоўнаму люду, працоўнай інтэлігенцыі.

У другіх валасьцёх справа ідзе крыху ня так. У Дудзіцкай воласьці адчынілі беларускую школу ў в. Карма. У Цытвянскай вол. адчынены дзьве беларускіе школы, адна ў в. Русаковічах, другая—ў в. Рудзенск.

У в. Дзерць. Пухаўск. вол., даўно ўжо істнуе беларуская школа. Дзеці надта добра пішуць і чытаюць пабеларуску, дэклямуюць вершы, запісваюць казкі.

У самым Ігумене, хоць там істнуе Нацыянальны Камітэт і Школьная Рада, праца ідзе туга, з прычыны недастачы матар'яльнай дапамогі. А працы шмат — трэба было-б склікаць павятовы зьезд настаўнікаў, адчыніць курсы беларусазнаўства, адчыніць бібліатэку чытальню.

Наагул, у Ігуменшчыне наша справа стаіць вядрэнна і з часам прынясе карысьць роднаму краю.

В. З.

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец — Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт.*



**АБВЕСТКІ:**

Беларускі Цэнтральны Саюз Сельскай Гаспадаркі гэтым прапануе ўсім беларусам спэцыялістам па сельскай гаспадарцы (аграномам, спэцыялістам, інструктаром і тэхнікам) рэгістравацца ў канцеляріі Саюзу.

Менск, Койданаўская вул. 21, кв. 4,

**Урад Саюзу.**

Цэнтральный Беларускі Саюз Сельскай Гаспадаркі гэтым апавяшчае, што пры Саюзе адчынено консультацыйнае бюро. Мэта яго—даваць рады па пытаньням сельскай гаспадаркі і арганізацыі сельска-гаспадарскіх таварыстваў на мясцох.

Адрэс: Менск, Койданаўская 21, кв. 4.

**Урад Саюзу.**



З дазв. вайсков. цэнзуры № 31. 12/II. Менск. Друкарня Інвалідаў.